ДУБРОЎСКІ
НАСТРОЙ №101

САКАВІК 2007

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## «ДАЧАКАЛІСЯ, НАРЭШЦЕ, МЫ ЖАДАНАЕ ПАРЫ...»

Шостага сакавіка- нарэшце! у Дуброве адбыўся ўсёткі сельскі сход. Канешне, калі б грамадзяне не тузалі ўладу, то такога сходу і не было б.

Вядома, сход быў не надта людны- мо чалавек з сорак было-багата хто не захацеў прыйсьці, іншыя не ведалі, але карысьць ад сходу была, бо дала магчымасьць грамадзянам і ўладзе спаткацца.

Старшыня сельрады сп. Крывалап паінфармаваў пра стан народу, худобы, пра іншыя акалічнасьці.

І народу за апошняе пяцілецце і худобы адпаведна паменяла. Вельмі значна скарацілася пагалоўе кароў.

Людзей турбаваў паганы стан вуліц, уладу- сьмецце, якое кідаюць абы-дзе. Гэта добрыя турботы.

Нейкі гарадзкі начальнік паінфармаваў пра ровень злачыннасьці. Таксама выьветлілася, што ў сельсавеце ёсьць адзін хворы на сьнід, «ён наркаман», зазначыў начальнік.

Старшыня сельрады прапанаваў абраць памочніка старшыні. З прапановы Міколы Клімавіча абралі сп. Бусел Людмілу, бібліятэкарку. Сп. Крывалап пахваліў яе, што яна сабрала «багата подпісаў за Лукашэнку».

Трэба спадзявацца, што такія сходы будуць ладзіцца чашчэй, што ўлада навучыцца стракацца з людзьмі ў нармальных умовах, а не па майстэрнях ды кароўніках і больш чула ставіцьмецца да іхніх патрэб.

Наконт лазьні было сказана, што, маўляў, рыхтуюцца праектныя дакуманты і вось тады, ўжо, яе пачнуць рабіць.

Відаць, хлусяць.

От так і прайшоў першы за апошнія мо год дзесяць ці болей сельскі сход.

Дуброўцы, ахватней прыходзьце на вясковы сход.

Ваш голас мусіць быць пачутым.

## «МММ» УСЕБЕЛАРУСКАГА МАШТАБУ.

Багата хто памятае шчэ налызную рэкламу фінансавай піраміды «МММ» па расейскаму тэлебачанню. Колькі год таму «МММ» абяцала зіхоткія вяршыні і бясконцае шчасьце ўсім сваім укладнікам. Грошы яна сабрала неблагія з даверлівых дурняў, а потым, канешне, паліняла.

От і ў Беларусі раптам ажыў аднекуль сканалы ў нябыт «фонд міру» і па афіцыйных канавах проста на працы з працоўных патрабуюць грошы ў той таямнічы фонд.

Чым займаецца той фонд, куды і на які мір ідуць гэныя гароўныя грошы, хто іх дзеліць- пра гэта нічога невядома і пытаць не рэкамендуецца. «Давай грошы», і ўсё.

Калі гэта грамадзкі фонд, то кажын, хто дае грошы, павінен ведаць і быць упэўненым куды як і калі былі патрачаныя ягоныя грошы. Усё да апошняй ва вёрачкі.

Калі ж начальнікі прыстаюць з патрабаваннем выплаты, то гэта ўжо вымагальніцтва.

От у адным калектыве некалькі работнікаў наадрэз адмовіліся аддаваць свае грошы ў «фонд міру». А вось у іншым, баяць, дырэктар у школе быў дужа недаволны, што працоўныя ахвяравалі ўсяго па пяцьсот рублёў. Маўляў, ганьба для школы. А па нашаму, ганьба ўладзе, што стварыла падпольны «фонд» і цяпер штогод вудурае грошы з працоўных.

Мы раім перш чым плаціць папрасіць дэталёвую справаздачу аб дзейнасьці фонду за мінулы год, упэўніцца, што вашы грошы не змарнаваныя і толькі тады падумаць, ці варта ізноў даваць.Калі такой інфармацыі не даюць, то і грошы аддаваць не сьлед.

Улада любіць паборы: то дай на сельскую гаспадарку, то на суботнік падкінь, то шчэ на скокі і сьвяты.

Мо і на царкву пачнуць зьдзіраць дзесяціну?

І такое было...

## ПАДВОЙНЫ ЮБІЛЕЙ.

Сёлета спаўняецца 125 год з дня нараджэння двух вялікіх паэтаў і патрыётаў нашай Бацькаўшчыны- Янкі Купалы і Якуба Коласа. Першы - дробны шляхціч, каталік,- другі мужык, праваслаўны.

Адзін Іван Дамінікавіч, другі Канстанцін Міхайлавіч.

Зьяўленне двух геніяў у адзін час- гэта дзіва. Упершыню за два з паловай стагоддзі забароны пісьмовай беларускай мовы да народу прамовілі на ягонай мове першакласнай паэзіяй. Пасьля подзьвігу Францішка Багушэвіча гэта была вялікая праява беларускага генію.

Неверагодна, але так: за чвэрць стагоддзя была створана цэлая сучасная літаратура: усьлед за Купалам і Коласам зьвілася Плеяда бліскучых літаратараў: Максім Багдановіч, Зьмітрок Бядуля, Алесь Гарун, Цішка Гартны... Максім Гарэцкі..

Бясспрэчна, Янка Купала і Якуб Колас былі вялікім падмуркам нашай найноўшай літаратуры.

Нельга не захапляцца іхняй паэзіяй, дзівосным беларускім словам.

Паэты жылі ў паскудны час.

Надзеі і спадзевы былі вынішчаныя сталінска-чэкісцкім тэрорам. Амаль уся пасьлярэвалюцыйная літаратура была расстраляная і закатаваная.

Янку Купалу і Якуба Коласа не пасьпелі забіць.

Чэкісты забілі Купалу пазьней, у 1942 годзе, скінуўшы яго з лесьвіцы ў гатэлі ў Маскве.

Якуб Колас застаўся пільнаваным да скону жыцця, памёршы ў 1957 годзе у вялікай скрусе за лёс Радзімы.

Бальшавікам, як і іхным нашчадкам сёння, нятрэба ані беларуская Беларусь, ані Купала з Коласам.

Сёння ізноў гадзюкаю праз Беларусь паўзе «лінія Сталі на» сіпячы і цыкаючы «дзяр жаўнай» ідэалогіяй, у якой няма месца ні беларушчыне, ні ідэалам нацыянальных геніяў.

Яны будуць з намі, пакуль будзе Беларусь.

**ЯНКА КУПАЛА**
**ЯКУБ КОЛАС.**

---

## ПОМНІК СТРАХУ.

Гэты помнік не з медзі ці граніту. Ён сядзіць у людзкой памяці: 1937 год. Акурат 70 год таму на 1/6 зямнога шару камуністычныя людаеды разгарнулі нябачаны і нячуты ў гісторыі генацыд- забойства ўласнага народу. Забівалі няблага і да гэтага, але найвышшай прадукцыйнасьці ка муністычна-чэкісцкі Молах дасягнуў тады.

**Каля 100.000 сыноў і дачок нашага народу было наўпрост расстраляна бальшавіцкімі катамі, каля <u>мільёна беларусаў выслалі</u> ў Расею, дзе бальшыня іх паўмі рала ад неядзі, холаду, непа сільнай катаржнай працы.**

Асабліва чэкісцкія снайперы цэлілі ў граматныя пласты- навукоўцаў, літаратараў, настаўнікаў, сьветароў. Але не грэбавалі і душамі сялян і работнікаў. Жэрлі і з сваёй хеўры

Бальшавікі выразалі палову башкірскага народу, каля трацiны казахаў. Загінула шмат расейцаў. Канцлагеры бальшавіцкага райху ніколі не былі нішчымнымі.

Тэрор быў такі люты, што нават пасля страшнай вайны людзі жахаліся таго году.

У Дуброве і па сёння старэйшыя памятаюць той жудасны час, калі пазабіралі іхных бацькоў і тыя ў бальшыні ніколі не вярнуліся назад.

На добры лад трэба каб быў у сяле помнік ахвярам бальшавіцкага канібалізму.

---

## ПАДАРУНАК АД МІНІСТРА.

Надоечы міністр адукацыі сп. Радзькоў Аляксандр парадаваў выпускнікоў школ і іхных бацькоў: у чарговы раз міністр зьменшыў колькасьць буджэтных месцаў у ВНУ і, адпаведна, вырас працант платных месцаў.

Хітрая Канстытуцыя гарантуе бясплатную толькі сярэднюю і прафесійную адукацыю пакідаючы няпэўны статус сярэдняй сьпецыяльнай і вышэйшай. Але...

ВНУ ў нас усе дзяржаўныя. Адукацыя ў краіне робіцца **за народныя грошы. За яе ~~ўжо заплочана з нашага ка~~шалька.** Няма аніякіх падстаў ліквідаваць бясплатнасьць вышэйшай і сярэдняй сьпецыяльнай адукацыі і ператвараць іх у раскошу. Ці мо рэжым хоча паставіць здатную да навукі, але безграшоўную моладзь зь вілкамі ў кучу гною?

Ці думалі нашы бацькі ў 1994 годзе, галасуючы за цяпераш няга правіцеля, што ён так проста вырве ад іх і дзяцей тое, што здавалася, не можа - быць перагледжана: даступная медыцына, бясплатная адукацыя, танны праезд?

Дадамо, што ў Еўропе вышэй шая адукацыя амаль усюды бясплатная.

Але ж мы не хочам у Еўропу.

А куды мы хочам?

## ПАМЕНЕЛА АДНЫМ НАСТАЎНІКАМ.

Ладнага размоў выклікала ў Дуброве і наваколлі не зусім звычайная зьява- звальненне з школы сярод году настаўніка патрыятычнай фізкультуры і патрыятычнага вайсковага выхавання. Апошні раз у Дуброве з школы звальнялі настаўніка, кажуць, мо год з дваццаць таму.

Цяперака найманне і звальненне педагогаў ажыцця́ўляецца дырэктарам школы, от такім правам і скарысталася начальства тутэйшай адзінаццацігодкі.

Увогуле, грамадзкая думка не ўхваляе такога кроку дырэктаркі: настаўнік тутэйшы чалавек, зусім не паганы, але патрапіў у палосу асабістых цяжкасьцяў, што і было скарыстана.

Высьветлілася, што звальненне было вызначана даўно. Шчэ з восені настаўніку заявілі, маўляў, цябе звольнім, ўвесь час цікавалі за ім, ціснулі псіхічна і вось вынік: асуджэнне дуброўцаў. Знаёмыя настаўнікі таксама асуджаюць такі неразважны, на іх думку, крок і трохі дзівяцца. Але маўчаць.

Канешне, мужчына не прападзе, але вельмі ж прыкра стаць аб”ектам для зьдзеку тамака, дзе трэба было трошкі спагады, помачы і спачування.

Адмыслоўцы кажуць, што з кадрамі трэба працаваць і падцягваць іх, а папрокамі, вымовамі ды выгнаннем нічога не даможашся.

---

**ПРА НОВАГА** СТАРШЫНУ Дуброўска-Мікалаеўскай арцелі існуюць розныя меркаванні.Бальшыня простых гароўных кажуць пра ягоную большую асабістую людзкасьць, што ён не цураецца размоў з працоўнымі, не размаўляе мацюкамі і гэта багата каму сімпатычна. Данежне, гуманнае стаўленне выгаднейшае за аўтарытарнае. Ды як бы ні быў гуманны старшыня арцелі не можа ён памяняць бальшавіцкі латыфундысцкі лад у вёсцы.(Тут можна прывесьці гістарычную паралель: англійскі прамыслоўца і філантроп Роберт Оўэн дужа імкнуўся палепшыць жыццё і лёс людзей, але акалічнасьці былі супраць яго- усё засталося як і да яго). Акрамя старшыны ў Дуброве склаўся шчыльны клан меншых начальнікаў, якія бескантрольна распараджаліся на сваю карысьць арцельным дабром і якія, за небагатым выняткам, ставіліся да працоўных і ветэранаў як феадалы.

Пакуль яны будуць тут круціць, нічога ў новага старшыны не вуйдзя.

А аграмястэчкі?

Аграмястэчкі- гэта запозьненае вар”яцтва невукаў, якія спазьніліся нарадзіцца.

---

## БЯДА ПАЧАЛАСЯ. ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЗАТРЭСЛА.

«Зашумела, загуло
Бы землятрасенне.
На палескае сяло
Найшло утрапенне.»

Граматнейшыя з публікі ведаюць гэтыя няхітрыя радкі Янкі Купалы. Напісана тая паэтычная адпіска на акультурацыю рэчкі Арэсы.

У наш час трасе ад сяўбы. Сталінская сельская гаспадарка хамутом вісіць на шыі ў Гаспадара і патрабуе грошай.Грошай у Гаспадара нікс, таму трэба скрэбці нутраныя рэсурсы.

Аднымі з найпершых скрабанулі настаўнікаў. Ім выдалі зьменшаную суму авансу, патлумачыўшы гэта тым, што «пачалася сяўба».

Прычым тут настаўнікі? А што, калі б сяўба на Марсе? Раз ты хочаш сеяць, дык сей па сваёй кішэні і кашальку, а не лезь у чужыя.

Але, пэўне, «усё кругом калхознае, усё кругом мае». Нават заробкі працоўных. Зрэшты, зарплата застанецца ранейшай, але чаму прыроднае бедства-сяўба- павінна ўплываць на рытм ейнай выплаты?

Бач ты, на сяўбу грошай мала, а на нейкія там вайсковыя манеўры грошы знайшліся. То хай бы тыя манеўры адбываліся на раздольных калгасных палёх, на мурожных лугах: танкі плугі павалакуць.

Ды хочацца і грозным выглядаць і сеяць адначасна.

---

## СКАНАЛА.

На пятнаццатае чысло сакавіка прыпадае дзень Канстытуцыі. Ды прайшоў ён ціха й непрыкметна, як і тая канстытуцыя, якой ён прысьвечаны.

Ад канстытуцыі 1994 году пасьля фальшывага рэферэндуму 1996- то бок захопу ўлады цяперашнім узурпатарам- мала што засталося. Ды й аб тое, што засталося, дыктатура выцірае ногі: маўляў, канстытуцыя для нас не сьвятарная карова, як хочам, так і круцім.

То якая ж радасьць можа быць ад скум”ячанай згвалчанай канстытуцыі?

Па канстытуцыі народ мае права, але дзе яно?

## «ДАЙЦЕ ГРОШЫ!»

Прыцiснуты да борцiка iмперыялiстычнай Расеяй бела рускi дыктатар паiмчаў шукаць новых грашавiтых «саюзьнiкаў» каб разжыцца грашмi. Вядома хто ягоныя хаўрусьнiкi: трэцягатунковыя краiны арабскага сьвету, гэткiя як ягоная цi шчэ горшыя дыктатары.

Што можа прапанаваць наш дыктатар арабскiм дыктатарам? Акрамя дружбы i пацалункаў- але арабы не цалуюцца!-нiчога! Iхны рынак даўно заняты Еўропаю. Ён можа толькi штосьцi прадаць iм тут, у Беларусi. Але арабскiя дыктатары людзi нашмат больш адукаваныя за дыктатара, вучылiся ў найлепшых еўрапейскiх ды амэрыканскiх унiверсiтэтах, гавораць на некалькiх мовах i кемяць у эканомiцы. Таму iм ад беларускага суббрата акрамя мо пахвалы i дружбы нiчога не трэба.

Так i вярнуўся наш з нiшчымнымi рукам.

I ён i прапаганда ўпiкаюць апазiцыянераў, маўляў, езьдзяць, шукаюць грошы. Апазiцыя шукае салiдарнасьцi i нiчога не прадае, бо ейная мэта-дэмакратыя, якая цi ёсьць цi якой няма, але якую нельга прывезьцi цi вывезьцi.

Дэмакратыя- для ўсiх.

Дыктатар жа шукае грошы на працяг свайго негадзяшчага дыктатаравання.

Цяперака кажын падлетак з тэлефончыкам з энтузiязмам загружае ў свой мабiльнiк аўтэнтычны лямант дыктатара: «Дайце грошы! Дайце грошы! Дайце сёння! Заўтра будзе позна!» Гэта ён так перакрыўляў апазiцыянераў. А сам!

Так назапускаў заводаў, што ўжо нельга даць рады. От i даводзiцца лемантаваць.

## НОВЫ ЎКАЗ

Яго завуць №760. (Ого, колькi ўказаў наўказуваў!) Згодна з гэтым указам усе прадпрымальнiкi мусяць быць юрыдычнымi асобамi i не маюць права наймаць на працу болей за трох працоўных ды i то калi тыя iхныя сваякi цi мо родзiчы. Гэтым указам валадар дае па руках нацыянальнаму бiзьнесу, тармозiць яго, не дае разьвiвацца i, такiм чынам, баронiць сябе ад магчымых канкурэнтаў за ўладу.

Адны кажуць, што ўказ паможа сабраць болей падаткаў. Мо й так. Але добра зьбiраць падаткi, калi ёсьць што i з каго скубцi, калi ж няма дастатковых капiталаў- то як з iх узяць добрыя падаткi?

З iншага боку: а калi бiзьнесовец сiрата i не мае сваякоў? Цi калi сваякi не хочуць працаваць у сваяка?

Ясна, што гэта паганы антынацыянальны ўказ. От хай прадпрымальнiкi i думаюць. Але нешта вяла яны варушацца. Гэтак можна i недаварушыцца...

---

## ЦI БУДЗЕ ВIКТАР НАШЫМ КIРАЎНIКОМ?

Дыктатар прызначыў свайго сына Вiктара членам Савета Бясьпекi. Прызначэнне гэтае незаконнае, бо ў гэны савет уваходзяць мiнiстры палiцыi, войска ды яшчэ пару найвышнiх службоўцаў. Да лiку такiх Вiктар па пасадзе не належаў. Але, вiдаць, бацька не дае веры нiкому, таму i прызначыў сына туды, дзе яму быць не належыць

Дык багата хто падазрае, што такiм чынам бацька рыхтуе сына сабе ў пераемнiкi. Але такая iдэя сямейнай манархii-дыктатуры ў Беларусi нiкому не даспадобы. Калi ўжо манархiя, то з Радзiвiлам. Ото пародны зух!

# ДЗЕНЬ ВОЛI.

25 САКАВIКА-сапраўдны, а не выдуманы дзень беларускай незалежнасьцi. Кажын сьведамы беларус сьвяткуе гэты дзень як найвялiкшае нацыянальнае сьвята. Але ў нашай краiне фактычна забароненыя мiрныя сходы i манiфестацыi, таму рэжым як можа iмкнецца перашкодзiць адзначаць гэты дзень.

От i сёлета задоўга да 25 сакавiка былi iнтэрнаваны- як пад час вайсковага стану!- актыўныя апазiцыянеры; адну жанчыну нават у вар"ятню зьмясьцiлi.Дзiкунства! Сям-там нават дзяцей папярэджвалi, каб не ўдзельнiчалi. На вушы была пастаўлена ўся палiцыя. У Шацiлках на нядзелю-непрацоўны дзень- у мiлiцыю павыклiкалi тамтэйшых апазiцыянераў. Проста так. Калi мiж мiлiцыянтаў i быў хто малаграматны i не ведае пра 25 сакавiка, то ад 2007 году пра гэты дзень ведаюць усе.

А той хто ведаў-толькi хiхiкаў ад гэтага стралянне з гармат па вераб"ях.

Тэлебачанне, як заўжды, iлгала, хлусiла i манiла.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

---

## ДАЛЕЙ АД ЯЕ!

Цэлы букет лiха абрынуўся на Расею апошнiм часам. Упаў пасажырскi самалёт. Пабушкалiся два вайсковыя самалёты.Згарэлi жыўцом старыя грамадзяне ў доме ветэранаў. У найноўшай шахце загiнула сотня шахцёраў.

Гэта добра паказуе, у якiм стане знаходзiцца расейская iмперыя лiха на чале з iмператарам Пу. Далей ад такой дурнiцы трэба трымацца.
«Саюзьнiчак »!!!

Друкарня I.Масьцiцкага 100 асобн.